# Маладзёвы весьнік

№2(7) Люты 1998 Выданьне Маладога Фронту


Мінулы нумар "Маладзёвага весьніка" быў прысьвечаны вядомаму беларускаму палітыку, лідару БНФ "Адраджэньне" Зянону Пазьняку.

**А гэтым нумарам Малады Фронт даражыць больш за ўсе астатнія: яго мы прысьвячаем**

## НАРОДНАМУ ПІСЬМЕНЬНІКУ БЕЛАРУСІ, АДНАМУ З ЗАСНАВАЛЬНІКАЎ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ, ВАСІЛЮ БЫКАВУ.

**Моладзь павінна ганарыцца тым, што такая вядомая й паважаная асоба, як Васіль Быкаў, верыць у іх магчымасьці, верыць, што за імі будучыня.**

**Матар`ял Васіля Ўладзіміравіча чытайце на 4-й -- 5-й старонцы, а цяпер -- верш Рыгора Барадуліна, прысьвечаны ягонаму сябру -- ВАСІЛЮ БЫКАВУ.**

## МЫ НА АГОНЬ ГЛЯДЗІМ...

***Васілю Быкаву прысьвячаецца***

*Мы на агонь глядзім*
*Пры вогнішчы рудым.*
*Як схімнік-нелюдзім,*
*Зьнікае ў неба дым.*

*Гарыць агонь-багач*
*І цемру й ціш ірве.*
*Цень жудасьці,*
*Пабач, —*
*Ступае па траве.*

*Няйнакш*
*І прашчур наш,*
*Укленчыўшы агню,*
*Узняў свой позірк*
*Аж*
*Да зор*
*Упершыню.*

*Зглыдаў агонь датла*
*Гальля рудую медзь:*

*І нам пасьля сьвятла*
*Страшней у змрок глядзець...*

**Рыгор Барадулін**

## У ГЭТЫМ НУМАРЫ:



**Будзь разам з намі!**

## Яны сядзяць за тое, што любяць Беларусь



Вадзім Лабковіч



Аляксей Шыдлоўскі

Нарэшце, зьявіўся нейкі прасьвет у стаўбцоўскай справе. Днямі справа хлопцаў была перададзеная ў суд. На разгляд справы суду патрэбна некалькі тыдняў. Хлопцам былі прад'яўленыя абвінавачваньні па трох артыкулах: 201 ч.2 (злоснае хуліганства), 186 ч.2 (зьнявага дзяржаўнага сымбалю) і 225 (абраза помнікаў). Малады Фронт заклікае ўсіх сумленных беларусаў дапамагчы хлопцам і зьявіцца да іх на суд, каб яны пабачылі, што на іх не забыліся, што яны не адны. Патэлефануйце на тэлефон 233-50-12, даведайцеся, калі й дзе будзе суд і прыйдзіце, падтрымайце маладых герояў Беларусі.Мы спадзяемся, што дзякуючы вашай падтрымцы, праз колькі дзён хлопцы выйдуць на волю.

*Вадзім Кабанчук пакуль сядзіць на "валадарцы", справу дагэтуль не перадалі ў суд.*



Вадзім Кабанчук

*Трымайцеся хлопцы, ВЫ пераможаце!*

# Алік хоча ў Тамбоў

Пасьля восеньскае лебядзінае песьні Шарэцкага & К першыя радкі ў беларускіх паліт-парадах ізноў заняў рэмікс старога, як сьвет, шлягеру "я другой такой страны не знаю" – хіт з аранжыроўкай маэстра Замяталіна "Алік хоча ў Тамбоў". Вядомы ўсёй краіне ўсенароднаабраны артыст выконвае сола сваім непаўторным сіпатым фальцэтам і з надрывам, у які немагчыма ня верыць. Вы толькі паглядзіце, як ён хоча. Як палаюць перад тэлекамэрамі яго очи чёрные, очи страстные, як прыціскае ён магутныя лапішчы да забраніраваных грудзей, як грозна тапырацца на высокіх нотах чорныя вусішчы.

Якраз наконт Тамбова пыталіся ў Аліка дошлыя журналісты. Маўляў, слабо прэзыдэнтам Расеі зрабіцца? "Пачаму ж слабо? — сіпеў Алік, — саўсем нет. Я ведзь хачу туда, хачу дзелаць чк, чк, чк, тра-та-та, усё как у песьні. І я там буду, я вам эта усяр`ёз гавару і надоўга. Іба, как гаварыт, у сваю очарадзь, ваш, ну то есьць наш, ну в обшчэм мой, вялікі й магучы народ, валкоў баяцца – у лес не хадзіць. Вот так-та, таварышчы журналісты."

Тамбоўскі воўк табе таварышч, падумалі пра сябе журналісты. І пачалі запасацца іншымі грамадзянствамі. Ну насамрэч, колькі можна — Ступнікаў у Ізраілі, Дзятлікoвіч у Архангельскай вобласьці(карэспандэнт кампаніі Дарэнкі), Шарамет у Ашмянах, таксама няблізкі сьвет...Нічога не папішаш, як кажуць.Не паздымаеш. Карацей, пагавары мне тут.

А Алік усур'ёз узяўся за танцы з тамбоўскімі ваўкамі. Запрасіў у Менск Беразоўскага, які шчэ іклы ад чубайсавай крыві аблізвае, і давай чаі ганяць, альянсы наладжваць. "Пачаму эта у вас, гаспадзін Беразоўскі, такія валасатыя, длінныя й кагцістыя рукі?". "А это потому, шапочка моя Красно-Зеленая,— павучальна адказвае той,—что мафия бессмертна." "А пачаму, —не адстае Алік,—у вас, гаспадзін Барыс Абрамавіч, такія свяцяшчыеся вочы?" " А это оттого, зайка моя, —намякае на беларускую валюту Абрамыч,—што хищник я ночной и все шуры-муры твои впотьмах отлично вижу." "Ладна, Бора!—дружаскі хлопае па плячы Беразоўскага Алік,—я ж тоже ведь хішчнік. Этат, как яго, Цігр, — відзіш, лысіна паласатая, і вусішчы во какія. --Ладна, дагаварылісь. Шарамету твайму месяцы два-тры валакіты, пару гадкоў услоўна, і хай ідзёт хоць на ОРТ, хоць на какіе хочат другія тры буквы. Но за эта арганізуеш мне турпаездку ў Тамбоў, і ешчо кое-куда. Хоць нос у цібя гарбаты, зато ты ня Мішка гарбаты, і"гарбата" не гаварыш, а я гэтага больша ўсяго не люблю. Так што мы з табой зладзім".

"Сладим мы с тобой, сладим, думае Беразоўскі, только сунься!"

"Сунусь,— думае Алік, —ей-богу, сунусь. А залезу, дык ня сладзіце."

А мы пабачым, хто каго. Паглядзім.

***Пісучы Шустрык***

# БэТэ пад белымі рыламі

Атас, хлопцы. БэТэ рэфармуецца.

Праўду кажуць: рэдкі глядач датрывае да сярэдзіны хоць якой з праграмаў нашага айчыннага тэлебоекамплекту. І рэдкая, далібог, рэдкая птушка зьявілася з Новага году у левым верхнім куце экрану. Сьцьвярджаюць, бусел. Некаторыя, што доўга сьвяткавалі, прыглядаюцца й гавораць: не-е, гэта два буслы. Біёлягі дзівуюць—што за зяленае ахвосьце пад белымі крыламі...Не ўгадалі, шаноўныя. Птушка называецца "Прэзыдэнцкі авіяляйнэр", і ўсіх нас відаць зь яго птушынае вышыні.

У бэтэшнай абойме зьмены. "Раенныя будні" саступілі месца "Сталічным шоў", хаця і тое, і іншае насамрэч—калгасныя справаздачы. Стане менш мульцікаў, больш пульцікаў, менш шарыкаў,—больш ролікаў, менш дурыкаў, затое больш шурыкаў. Вечаровыя Навінкі—тыя, што "Панарама"—падзеляцца на "Пана" і "Раму", а "Рэзананс"(ад слова "рэзаць") павялічыць памер верашчаньня й будзе рэзаць ня толькі праўду-матку, але й праўду-бацьку. І канечне, застаюцца ў нашым тэлевізары ў Новым годзе белыя рылы, бледныя ад дзяржаўнага страху зімоўскія, кісялі ды хрушчовы. Пакуль БТ пад імі, як пад сьнегам. І панад усім - прэзыдэнцкі авіяляйнэр.

А мы ў пралёце.

***Шустрык Пісучы***

Капітан Шчукін, хоць і не тамбоўскі воўк, але нам таварыш. Апошнія навіны са шчукінскага Фронту: былы камуніст ізноў загрымеў на суткі й сустрэў год Тыгру ў камэры. Акрамя таго, яшчэ адзін "падаруначак" ён атрымаў пасьля Новага Году -- яму, акрамя той "дзесяткі", што ўжо адсядзеў, уляпілі яшчэ 10 "лімонаў". Здаецца, за сотню ўжо пераваліла. Кажуць, што Паша Знавец, перадаючы капітану чаго паесьці, абмовіўся: "Я з такім жа задавальненьнем буду насіць перадачы і сашку. Якая, насамрэч, розьніца—камуністу альбо праваслаўнаму атэісту. Усе ж мы людзі, ня воўкі."

Добрая ён душа, Знавец.

**Х.Зэк**

**Шаноўныя чытачы! Зноўку з вамі ДВУБОЙ -- рубрыка, дзе процілеглыя людзі адстойваюць свае йдэі. У першым нашым баі інтэлектуал-праграмайстар Чарняеў перамог спартоўца, "сілавіка" Скочку. У сёньняшнім высьвятляецца супернік Аляксея. Мы аддаем рынг "Маладзёвага весьніка" маладым эканамістам: гэта 27-гадовы эканаміст-практык, бізнэсовец са стажам *Віктар Несенчук*, намесьнік Старшыні прафсаюза прадпрымальнікаў "САДРУЖНАСЬЦЬ", сябра Цэнтральнае Рады Маладога Фронту, намесьнік галоўнага рэдактара "Маладзёвага весьніка", і 21-гадовы тэарэтык з дыплёмам *Аляксей Янукевіч*, старшыня Заводзкае Рады Маладога Фронту.**


Аляксей Янукевіч


Віктар Несенчук

**1. Чым, на ваш погляд, адрозьніваецца шараговы "дынамавец" ад сярэднестатыстычнага "камароўца"?**
**2. Што ты любіш болей за ўсё прадаваць? А купляць?**
**3. Як будзем валіць рэжым?**
**4. Скарыстайся выпадкам, перадай сваё прывітаньне каму заўгодна.**

**1.** Дзякуй за пытаньне. Выходзячы з таго, што слова "шараговы" паходзіць ад слова "шэраг", а йснаваньне сярэднестатыстычнага чалавека -- адна з галоўных містыфікацый статыстыкі, мы можам прыйсьці да высновы, што ў адрозьненьне ад неіснуючага насамрэч гандляра з "камароўкі", "дынамавец" асоба рэальная і не адасобленая ад барацьбы ў шэрагох... МФ.
**2.** Аднойчы давялося замест Андрэя Пятрова прадаваць кветкі -- я адразу зразумеў, што створаны для іншых справаў. А купляць люблю кнігі. І, канешне ж, падарункі.
**3.** Рэжым валіць ня будзем (адказ для ГэБэ). Проста й хутка (адказ для сябраў Маладога Фронту). Спытай у Скочкі (адказ для Паула Севярынца).
**4.** Усім, хто мяне ведае. Асобнае прывітаньне -- Андрэю Пятрову (гл.адказ на пытаньне №2). Дзякую ўсім!
Жыве Беларусь!

**1.** Вельмі добрае пытаньне. Адрозьненьне проста глябальнае. Шараговы дынамавец мае бліскучую магчымасьць быць сябрам скандальна вядомага прафсаюзу "Садружнасьць" на чале зь ня менш скандальна вядомым босам Кацяй Навумовіч. А камаровец не можа, бо яны выбралі сваім босам дзяржаву.
**2.** Прадаваць тое, што можна таньней набыць, а купляць тое, што можна даражэй прадаць.
**3.** Я б з задавальненьнем адказаў на гэтае пытаньне, але ж усё ўжо вырашана. У хуткім часе выйдзе падручнік пад рэдакцыяй вядомых дзеячоў прапаганды й контрапрапаганды спадароў Падгола й Баршчэўскага. Дадзены падручнік напісаны па матывах вядомых гандысцкіх мэтадаў. Пасьля азнаямленьня зь імі і прымяненьня іх на практыцы дыктатарскі рэжым зь Беларусі адразу ж зьнікне.
**4.** Я хачу перадаць гарачае прывітаньне першаму, і спадзяюся, апошняму прэзыдэнту (альбо рэзыдэнту) ў РБ.



**Васіль Быкаў -- Народны пісьменьнік Беларусі**

**Васіль Уладзіміравіч Быкаў нарадзіўся 19 чэрвеня 1924 года ў вёсцы Бычкі Вушацкага раёна. Вучыўся ў Вітабскім мастацкім вучылішчы на скульптурным адзьдзяленьні. Ваяваў, удзельнічаў у Вялікай Айчыннай вайне, быў узнагароджаны. Пасьля вайны 16 гадоў (1956-1972) працаваў у газэце "Гарадзенская праўда". Акрамя таго, Васіль Уладзіміравіч Быкаў -- адзін са стваральнікаў таварыства памяці ахвяраў сталінізму "Мартыралог Беларусі", адзін з заснавальнікаў БНФ "Адраджэньне". Васіль Уладзіміравіч заслугоўвае самае вялікае павагі й пашаны, бо дзякуючы яму існуем мы. Рэжым баіцца Васіля Быкава, забараняе друкаваць ягоныя творы. Зусім нядаўна быў забаронены ягоны новы зборнік -- СЬЦЯНА. Але ж рэжым ня здолее зьнішчыць ні ягоных твораў, ні ягоную любоў да Беларусі. Талент ды любоў нельга зьнішчыць.**

**ВАСІЛЬ УЛАДЗІМІРАВІЧ ! Дзякуй Вам за тое, што Вы ў нас ёсьць !**

# Перад тварам гісторыі

## *Гістарычную пэрспэктыву вызначае моладзь*

Мабыць, варта зыходзіць з базавай высновы пра разнааблічную рэальнасьць сьвету, разнахарак-тарнасьць ягоных зьяў, розныя, не падобныя адна да аднэй ісьціны. Што для адных ісьціна — тое для іншых фальш. Для адных дабро — для другіх блага. Нават калі для адных і другіх блага, дык у сілу хоць бы адметнасьці таго тэрміну у розных моўных асяродках ён будзе мець узаемавыключнае разумень-не. Мусіць, тое невыпадкова. Так ужо спрадвеку уладкавана людства.

Але бяда ў тым, што ўсе гэтыя рознахарактарныя існасьці павінны існаваць пад адным сонцам, на аднэй і тэй жа зямлі. Мабыць для таго трэба неяк дамовіцца. Форма тае дамоў-ленасьці ў сацыяльна-культурніцкім пляне нашага часу называецца дэмакратыяй. Як паўсюдна прыз-нана, — не самая дасканалая форма /нават зусім не даска-налая/, але чалавецтва не прыдумала лепшай. Хвалёны сацыялізм, які, на думку адных —





самая лепшая форма, для другіх — самая найгоршая. Можа, і найлепшая ў тэорыі, у ідэёвым сэньсе, для дэмагагічна-палітычных мэтаў. Але на практыцы... Дзе яна ажыцьцявілася ў свае ідэёвае якасьці? Мабыць, нідзе. Хіба што раскашуе у таталітарным мышленьні, бо дае ўладарам найшырэйшыя магчымасьці для ўлады. Дэмакратыя ж у сэньсе ўлады — самая непрыдатная. Але гістарычны вопыт апошняга стагодзьдзя сьведчыць, што без дэмакратыі ў ракетна-ядзерную эпоху магчымы толькі адзін вынік — самазьнішчэньнне. Тое некалі зразумеў апошні генсек КПСС, але зразу-меў толькі напалову. Паніш-чыўшы "халодную вайну", ён не знайшоў магчымым панішчыць сацыялізм. Элементарны паліатыў з тых, якія , як вядома, дабра мала прыносяць.

Пэўная сіла сацыялізму — у яго гіпнатычнай зманлівасьці, уяўнай прывабнасьці сацыяльнай справяд-лівасьцю. Асабліва што датычыць роўнасьці — калі не ў багацьці, дык хоць у беднасьці. Наш не распеш-чаны жыццём народ, мабыць, гатовы



задаволіцца і такой формулай. Калі б толькі яе можна было ажыцьцявіць. Але немагчыма. На шляху да таго ажыцьцяўленьня ляжыць, так бы мовіць, генная прырода чалавека. Ужо Бог стварыў яго не сацыялістам. Занадта шмат у яго эгаістычнага, індывідуялісцкага. І гэта зразумела. Інакш бы ён ня быў чалавекам — істотаю, створанай Богам "по образу и подобию своему". У гэтым сэньсе за тысячы год існавання чалавек не зьмяніўся. І, мабыць, ужо ня зьменіцца.

Сацыялізм савецкага ўзору — гэта зманлівая ўтопія. Абяцанка-цацанка, здатная сваёй нерэальнай віртуальнасьцю. Калі чалавечае шчасьце з сучаснага перанесена ў будучыню. Зрэшты, у гэтым сэнсе пэўная сувязь сацыялізма з хрысьціянскай ідэяй, яе "загробной жизнью", верай ў рай і г.д. Усё тое бязьлітасна эксплуатавалася марксізмам у выглядзе "сьветлага будучага — камунізма".

Усё ж трэба прызнаць пэўную дыскусійнасьць праблем сацыялізма, капіталізма, дэмакратыі. А між тым ёсьць і абсалютна выразная аксіёмнага кшталту ідэя, як бы яе не заблытвалі раней і зараз "кніжнікі і фарысеі" — марксісты-ленінцы. Гэта нацыянальны пачатак арганізацыі грамадзтва, **нацыянальная ідэя**. Яе аксіёмны характар вызначаецца хоць бы тым, што на ёй узрасла ўся сучасная зямная цывілізацыя.Што нават напрыканцы XX стагодзьдзя, калі гэтак абрушна мяняюцца ўмат якія парадыгмы быцьця, нацыянальная ідэя амаль не зьмянілася. На ёй папранейшаму грунтуецца ўся нацыя-нальная культура, рэальная эканоміка як прадукт палітыка-экана-мічнай дзейнасьці нацыяў. Так сталася ў Эўропе, у Азіі, у Амэрыцы. Тое робіцца ва ўсім сьвеце. Цяпер шмат гаворыцца пра інтэграцыю. Але пасьпяхова інтэгравацца могуць разьвітыя і раўнапраўныя нацыі. Сярод слабаразьвітых і нераўнапраўных заўжды знаходзіцца больш разьвітая і агрэсіўная, якая паглынае слабейшую. Нацыянальная ідэя — грунт і апірышча нацыянальнай дзяржаўнасьці. Толькі ў Беларусі яе баяцца — так запалохалі нас бальшавікі. Мусіць, тое ім было трэба для ажыцьцяўленьня іншай ідэі — імпэрскай ідэі сусьветнай рэвалюцыі. Для сусьветнага панаваньня. Калі тое панаваньне не ўдалося, яны сталі пагаджацца на паліятыў — панславянскую ідэю. Хоць менш, ды ўсё тое самае.

Ну а што моладзь?

Моладзь — заўжды гістарычны сфінкс у перспектыве. Як вядома, гісторыя саткана з парадоксаў і рэдка разьвіваецца па лагічнай лініі. Больш пэўна гістарычную перспектыву вызначае моладзь. Ва ўсякім разе — не старасьць. Калі нават апошняя нясе вышэйшую,



выпакутваную досьведам ісьціну, усё роўна моладзь зробіць інакш і па-свойму. Важна, каб яна зрабіла не на шкоду. Сабе і гісторыі.

*Васіль Быкаў.*
*студзень 1998*

## Варта адзначыць...

**Магілеў**

Ваше заявление рассмотрено, — так адказваў магілеўскі гарвыканкам на прозьбу дазволіць пікет супрачь дыскрымінацыі беларускай мовы аднаму зь лідэраў тутэйшага Маладога фронту Андрусю Кавалёву – и следует отметить...”

Што ж такога “следует отметить” магілеўскім маладафронтаўцам? “Чорт вазьмі, рабята! — прыкладна ў такім тоне вытрыманы адказ – што за дзяла! У горадзе, блін, аж 243 из 52717 учанікоў учацца на вашай, ізьвяніця за выраженіе, белорусской мове!.. Вы ў курсе, што ў нас дзействуюць спецкурсы і праграмы націянальнага самасазнанія”!.. (Не паняў. Аўтар) И вабшчэ... нецелесаабразна гэта ўсё. Ці, папрасьцей, привлечение внимания общественности к этой проблеме интереса для широких слоев жителей нашего города, которые могут в данный момент находиться в месте проведения пикета, не представляет” (Паняў. Аўтар)

Карацей, пікет забаранілі. Дзякуй, што нагадалі: следует отметить.

Адзначым, дарэчы, і яшчэ адну цікавую паперку, якая пачала з‘яўляцца ў многіх якіх пад‘ездах магілеўскіх шматпавярховак.



**Внимание!**

В вашем доме тоже живет человек, у которого много врагов.
Судья, который не всегда судит по совести и закону

Если вы обнаружите в подъезде непонятный предмет, который может оказаться взрывоопасным, или подозрительных людей, позвоните 02.
Если вы будете бдительны, взрывов не будет.



І гэта пасля Мікалуцкага.

***Паўло Невідомы.***

## Ен яшчэ вернецца

**Магілеў**

Не пасьпелі менчукі як сьлед аформіць талісман Маладога фронту – “Яську” з завязаным ротам і арматурынай у руках – як на першых жа трох іспытах у Магілеўскім машынабудоўчым інстытуце быў завалены й выключаны з ВНУ загадам рэктара Ясь Абадоўскі, адзін зь лідэраў магілеўскіх маладафронтаўцаў, сябра Цэнтральнай Рады Маладога Фронту.

Заяву Управы МФ з гэтай нагоды чытайце ў прэсе. А мы паведамім: Ясь цяпер едзе вучыцца ў Польшчу. Але, перш чым казаць “до відзэньня”, у сваім інтэрв`ю, дадзеным “Маладзёваму весьніку” падчас прыезду ў Менск 16-17 студзеня, Ясь зазначыў: ”Я абавязкова пастараюся затрымацца ў Беларусі й прыняць удзел у Альмпійскім шэсьці Маладога фронту 14 лютага”.

Як сьпявала “Мроя”: “Ён яшчэ вернецца!”

***Яська Менскі***

## Занька падымае горад

**Ганцавічы**

Вы, пэўна, ўжо ведаеце пра Мікалая Занька – чалавека, які ў сваіх родных Ганцавічах тыднямі выходзіў на плошчу з плякатамі, галадаваў усухую ў тамтэйшай вязьніцы, пратэстуючы супраць “стаўбцоўскай справы” і закрыцьця “Свабоды”.

І ўсё гэта — адзін. Удзень і ўначы, у любое надвор‘е, бесперапынна. Усё гэта – так страшэнна для ўладаў.

Жыхары райцэнтра, якія першыя дні насьцярожана судачылі аб самотнай постаці на плошчы, паціскалі плячыма й круцілі пальцамі ля скроні, ужо праз тыдзень зразумелі, што гэта – герой.

Да Занька пачалі падыходзіць, цікавіцца, спачуваць. У горадзе перасталі зрываць расклеяныя ўлёткі. Хваляй узьняліся чуткі. Праз паўмесяцы ці ня ўсе Ганцавічы былі на баку адзінага чалавека, які проста выходзіў на плошчу.

Нарэшце, народ у асобна ўзятым горадзе зразумеў: сваё права можна і трэба адстойваць.

15 студзеня пачалася бестэрміновая забастоўка ганцавіцкіх дарожнікаў з патрабаваньнем выплаціць заробак. Праз тры дні спалоханая дырэкцыя выканала ўсе запыты страйкоўцаў. На некаторых прадпрыемствах горада ўсур‘ёз рыхтуюцца да падобных жа акцыяў.

*Занька перамог. Цяпер яго імя ўжо ў гісторыі Бела-русі, у гісторыі змаганьня з рэжымам. Побач зь імё-намі Пазьняка, Сіўчыка, Адамовіча, Мірона, Бондарава, Каваля, Кійко, Хадыкі, Лабковіча, Шыдлоўскага, Кабанчука. Гэта – сапраўдныя героі Беларусі.*

## МАЛАДОЕ АДРАДЖЭНЬНЕ

падрыхтоўка
**АБІТУРЫЕНТАЎ**
ПА-БЕЛАРУСКУ
БЯСПЛАТНА

ХІМІЯ
ФІЗЫКА
МАТЭМАТЫКА

Кожную суботу,
а 17-й гадзіне
вул.Варвашэні, 8

**ВЫКЛАДЧЫКІ БДУ:
ПАДРЫХТОЎКА ДА ПАСТУПЛЕНЬНЯ**

## МАЛАДЗЁВЫ ВЕСЬНІК

Выданьне Маладога Фронту

*запрашае да супрацоўніцтва маладых журналістаў, якія ўмеюць і любяць пісаць. Гарантуем удзячнасьць нашчадкаў. Тэлефон для кантактаў: 236-50-76 (Цімох Дранчук)*

ФРОНТ, ФРОНТ, ФРОНТ

## MUSIC BOX

**Ты захапляешся беларускім рокам?
Але ў цябе няма сяброў?
Дасылай свае абвесткі ў "Нашу Ніву", "Музыкальную газату" і іншыя - й нас стане болей.**

*[illegible] "РОК-каранацыя-97".
Дасылайце свае заяўкі на адрасу:
Менск, Варвашэні, 77-443.
Узор купону можна знайсьці ў "Музычнай газэце".*

**Шукаем спонсараў для правядзеньня канцэртаў беларускіх гуртоў,бардаў, выданьня касэтаў зь іх запісамі.
220085,Менск,а/с 5. Тэл. 231-04-08, 249-08-88 (Віталь).**

Ты хочаш, каб твой любімы гурт прагучаў на "Радыё Рокс"? Дасылай свае заяўкі на адрэсу: 220002, Менск, Старажоўская, 8А, Радыё Рокс "Максімюзікбокс"

## ТЫ любіш Беларусь?

ТЫ любіш слухаць беларускую музыку, але не можаш знайсьці касэтаў з запісамі беларускіх гуртоў і бардаў?

**НЕ ПЫТАНЬНЕ!**

***Звязвайцеся па тэлефонах 231-04-08, 249-08-88 (Віталь) альбо па тэлефоне 249-60-[illegible] (Іна).
Таксама ёсьць магчымасьць атрымаць касэту поштай. Дзеля гэтага трэба зьвязацца па дадзеных тэлефонах альбо даслаць ліст на адрасу: 220085, Менск, а/с 5, Віталю [illegible]***

## DISKO

У "РЭЗЗРВАЦЫІ"

**Менск, вул.Бяды, 4**

**МФ-КЛЮБ ЗАПРАШАЕ НА
БЕЛАРУСКУЮ ДЫСКАТЭКУ**

**Даведкі па тэлефоне:
273-31-11 (Андрэй)**




**РАЗМАХ КРЫЛАЎ:**
*650 км з зах на усх*
*560 км з пн на пд*

**ГНЯЗДУЕ:**
*У Драздах на самым вялікім дрэве*

**ЯЙЦАНОСКАСЬЦЬ: 2**

**СПАРОЎВАЕЦЦА:**
*2 красавіка кожнага году, звычайна беспасьпяхова, з двухгаловай птушкай.*

**ПАДКІДВАЕЦЦА:**
*У мацярынскае гняздо неўстаноўленым яйцом*

АНЭКДОТЫ

# ПРА ГЭТАГА...

Л........ прыходзіць да ельцына, пачынае абдымацца:
— Барiс, Боряньга, ты мяня уважаеш?
— Карацей, — прыпыняе ельцын сашу, — колькі грошай табе ў гэты раз трэба?

***

Саша выклікае да сябе заўхоза й загадвае: -- Найдзі в маёй адміністрацыі маладога і ініцыяціўнага чалавека, каторы са ўрэменем мог бы заняць маё места.
-- Ну, а што потым?
-- Калі найдзёш -- адразу ж пасадзі.

***

Адзін мужык скардзіцца свайму сябру:
— Уяўляеш, суд прысудзіў мне штраф пять мільёнаў за тое, што я А.Р.Л... свіньнёй назваў. А ў мінулы раз за тое самае з мяне садралі ўсяго толькі 100 тысячаў.
— Ну, а што ж ты хацеў, браток: сам ведаеш, як у апошні час сьвініна падаражэла.

***

Капітан міліцыі піша заяву:
"Прашу перавесьці мяне простым супрацоўнікам ДАІ на дарогу Менск-Масква ў сувязі зь цяжкім матар'яльным становішчам..."

***

Л.......... лаецца на свайго новага падначаленага:
-- Ты шо, думаеш, я ідзіёт?
-- Ну, я не ведаю, я ж тут нядаўна працую...

***

Арыштант Л....! Чаму гэта да васна спатканьне ніхто не прыходзіць? Няўжо сяброў-таварышаў у вас няма?
-- Пачаму жа, есьць! І очэнь дажа многа. Но ані ж усе зьдзесь!..

***

А.Р. ўначы пытаецца ў палюбоўніцы:
-- А што б ты зьдзелала, еслі б была настаяшчым мужчынай?
-- Не ведаю... А ты?..

**Падрыхтаваў Цімафей Дранчук**



**Гэта мой час**

**Калі вы хочаце атрымоўваць кожны наступны нумар "Маладзёвага весьніка" для сябе і сваіх знаёмых, зьвяртайцеся на тэлефоны *(017) 236-50-76, (017) 278-11-01 (аб.4962)* (Цімафей Дранчук,"МВ") і паведамляйце колькасьць асобнікаў, якую вы здольныя распаўсюдзіць.**

Маладзёвы  весьнік

**Выходзіць з 1997 года**
**Заснавальнік** Малады фронт.
**Галоўны рэдактар** Павал Севярынец
**Адказны за макет і вёрстку** Цімафей Дранчук
**Рэдкалегія:** Павал Севярынец, Сяржук Паўленка, Алесь Асіпцоў, Цімафей Дранчук, Віктар Не..., Яўген Скочка, Валянцін Стэфановіч, Аляксей Шэін
**Наклад** 199 асобнікаў
**Тэл\факс для кантактаў** --- (017) 23... (Цімафей)
**Адрэса:** Менск, 22008... вул.Іванаўская ... (Цімафей)